Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №4(88), сакавік, 2017г.

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА

Лозунг БНР упершыню прагучаў у 1917, у прыватнасці на **Усебеларускім з'ездзе** (кангрэсе) у Мінску. Незалежніцкія настроі ў беларускім руху ў значнай ступені былі выкліканы палітыкай Часовага ўрада Расіі, які не хацеў лічыцца з патрабаваннямі беларускіх арганізацый аб наданні Беларусі статуса аўтаноміі ў складзе Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, а таксама палітыкай Савета Народных Камісараў Расіі, які вёў перагаворы з Германіяй аб лёсе Беларусі без удзелу ў іх прадстаўнікоў беларускага народу. Незалежніцкія тэндэнцыі ўзмацніліся пасля разгону Усебеларускага з'езду і пасля таго, як 3-і Усерасійскі з'езд Саветаў (студзень 1918) ухваліў гэты разгон.

Ва ўмовах, калі бальшавікі паводле Брэсцкага міру передавалі беларускія землі Германіі, часткай дзеячаў беларускага нацыянальнага руху было прапанавана абвясціць поўную незалежнасць Беларусі.

Калі ў ходзе I сусветнай вайны, пасля падпісання Брэсцкага міру, Чырвоная Армія пакінула Мінск, а германскія войскі яшчэ не ўступілі, група дзеячаў беларускага нацыянальнага руху зрабіла спробу ўзяць на сябе ўладу. Позвнім вечарам 19 лютага Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з’езда скончыў сваё апошняе нелегальнае пасяджэнне, апрацаваўшы **Першую Устаўную грамату да народаў Беларусі.** Крыху раней адбылося надзвычайнае пасяджэнне Выканкома ЦБВР, на якім было прынята рашэнне:

«... ПРАПАНАВАЦЬ ВЫКАНКОМУ РАДЫ 1-ГА УСЕБЕЛАРУСКАГА З’ЕЗДА ВЫКАНАЦЬ ВОЛЮ З’ЕЗДА І ЎЗЯЦЬ УЛАДУ Ў СВАЕ РУКІ.«

Выканкам Рады Усебеларускага кангрэса 21 лютага 1918 звярнуўся да народа Беларусі з 1-ай Устаўной граматай, у якой аб’явіў сябе ўладай у Беларусі. Часовым выканаўча-распарадчым органам стаў створаны ім **Народны сакратарыят** на чале з Я. Варонкам. У яго склад увайшлі: П. Крачэўскі, А. Смоліч, П. Бадунова, А. Карач, Т. Грыб, К. Езавітаў, І. Серада, С. Крывец і інш. Разлік быў на тое, што германскаму камандаванню прыйдзецца прыняць як дадзенае беларускае нацыянальнае ўтварэнне.

9 сакавіка 1918 адбылося першае ўрачыстае пасяджэнне Выканаўчага камітэта Рады кангрэса. У яго склад былі запрошаны прадстаўнікі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, меншавікоў, ЕС і СС, Паалей-Цыёна і інш. Агульная колькасць членаў Выканкама была даведзена да 71 чалавека. Пасяджэнне прыняло **Другую Устаўную грамату**, у якой Беларусь была аб’яўлена народнай рэспублікай. Выканаўчы камітэт быў перайменаваны ў **Раду БНР**, абраны **Прэзідыум Рады** на чале з І. Серадой.

У межах Беларусі былі абвешчаны свабоды: слова, друку, сходаў, забастовак, сумлення, недатыкальнасць асобы і жылля, права на аўтаномію, раўнапраўе моў усіх нацыянальнасцей Беларусі.




Права прыватнай уласнасці на зямлю скасоўвалася паводле сёмага пункту граматы («У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права ўласнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля передаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць»).

Рада БНР на пасяджэнні **ў ноч з 24 на 25 сакавіка 1918** пасля дзесяцігадзінных спрэчак нязначнай большасцю галасоў прыняла пастанову Трэцюю Устаўную грамату, у якой абвясціла незалежнасці Беларусі. У пратаколе адзначалася, што атмасфера ў час пасяджэння была «наэлектрызавана». Супраць аддзялення Беларусі ад Савецкай Расіі галасавалі дэпутаты гарадской, земскай і бундаўскай фракцый. Ад галасавання ўстрымаліся прадстаўнікі Аб’яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі, Паалей-Цыёна і сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Земская фракцыя выйшла з Рады БНР і адазвала сваіх прадстаўнікоў з Народнага сакратарыята. **ТРЭЦЯЙ УСТАЎНАЙ ГРАМАТАЙ АД 25 САКАВІКА 1918 БНР АБВЯШЧАЛАСЯ «НЕЗАЛЕЖНАЙ І ВОЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ».**

Вядома, што I Усебеларускі з’езд даверыў абранаму ім Савету з’езда падрыхтаваць і склікаць Беларускі Устаноўчы сход, а затым II Усебеларускі з’езд, на якім абвясціць будучую беларускую дзяржаву. Фактычна выйшла, што БНР абвясціў нават не Савет з’езда, а створаны ім орган — Выканаўчы камітэт Рады Кангрэса, які потым кааптаваў у свой склад 28 прадстаўнікоў нацыянальных груп.

Магістрат

**Выдавец**:
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

*http://kamunikat.org/mahistrat.html*

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 710-42-23,
713-22-00, 218-98-38,
711-24-47, 593-15-34,
517-32-53.
E-mail: kas_vit@tut.by

**WWW.NARODNY.ORG**
VK.COM/PARTYJA_BNF
**WWW.MOLADZ.INFO**
VK.COM/BNF_MOLADZ

**ДАСЫЛАЙЦЕ АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ГА БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**

**Рэквізыты: р/р 3015100147004 ААТ "Белзнешэкономбанк" філіял Мінскае аддзяленьне № 1 код 226, УНП: 100052236**

**"прызначэньне плацяжу" — "бязвыплатны ўзнос"**

**— для ахвяраванняў на аплату сядзібы — "бязвыплатны ўзнос на аплату арэнды памяшкання".**

**Шчыры дзякуй за Вашыя ахвяраванні!**

# ИСКРА НАРОДНОГО ГНЕВА ИЛИ ПЛАМЯ ВОССТАНИЯ?

Напряжение общественно-политической ситуации по всей стране началось с введения декрета от 28 февраля 2014 года о том, что зарегистрированные предприниматели, независимо от того, осуществляют они предпринимательскую деятельность или нет, получают они прибыль или нет, ОБЯЗАНЫ оплачивать в Фонд Социальной Защиты Населения 35% от среднего заработка по стране, на то время эта сумма составляла около 650 000 бел. руб. Сумма задолженности предпринимателя перед государством увеличивалась каждый месяц. Предприниматели, которые не осуществляли деятельности и не могли знать об этом декрете, даже не получили уведомления о суммах нарастающего долга. К марту 2015 года они получили «письма счастья» с задолженностью перед ФСЗН за год около 10 млн. руб. Такие письма получили 100 тысяч предпринимателей. Индивидуальные предприниматели повозмущались, но недолго, оплатили долг и всё утихло.

Затем власти решили пополнить казну и придумали ещё один новый сбор, который назвали «ДОРОЖНЫЙ СБОР». Суть его такова: в независимости от того, ездишь ты на автомобиле в день по 200 км или в летнее время 2 раза съездишь с внуками на дачу, платишь единый налог, который составляет 2 млн. бел. руб (100$). По моему мнению, этот сбор должен быть внесён в стоимость топлива. «ЧЕМ БОЛЬШЕ ЕЗДИШЬ, БОЛЬШЕ ПЛАТИШЬ». И снова народ проглотил этот сбор и сейчас все автолюбители своевременно пополняют казну. Даже если государство и собирает эти деньги, то деньги должны вкладываться в ремонт дорог в той местности, где они собираются. А НЕ ВСЕЙ СТРАНОЙ СТРОИТЬ КОЛЬЦЕВУЮ ДОРОГУ ВОЗЛЕ МИНСКА.

И последний из декретов, который затронул большинство семей, это «НАЛОГ НА ТУНЕЯДСТВО». В нашей стране, где очень сложно найти работу, где каждый день закрываются предприятия и работников выбрасывают на улицы, вводят этот сбор. Люди получили «письма счастья» за 2015 год, в этих письмах сумма долга государству составляет 360 рублей (180 долларов), людям нечем платить, люди выходят на площадь и высказываются за отмену этого декрета. 19 февраля в Витебске на площадь вышли около 100 недовольных граждан, через неделю люди в количестве более 2000 человек прошли от площади Победы до площади Ленина с требованиями отмены этого сбора. Следующая акция назначена на 25 марта в «ДЕНЬ ВОЛИ». Представьте, сколько придёт людей, если людям начнут приходить письма уже с новой задолженностью за безработицу за 2016 год в 420 рублей (210$).

Люди настроены очень серьёзно, волнения нарастают с каждым днём.

А.Снежный

# СОЙМ БНФ ПАТРАБУЕ СПЫНІЦЬ РЭПРЭСІІ І ВЫЗВАЛІЦЬ ЗЬНЯВОЛЕНЫХ

Сойм Партыі БНФ выказвае пратэст з нагоды аднаўленьня практыкі масавых затрыманьняў, зьбіцьця ды адміністратыўных арыштаў удзельнікаў мірных акцыяў пратэсту ў Беларусі. Паводле зьвестак праваабаронцаў, цягам мінулых двух тыдняў больш за 200 грамадзянаў Беларусі былі затрыманыя і пакараныя адміністрацыйнымі арыштамі або штрафамі, у тым ліку — : сябра Сойму Партыі БНФ, кіраўнік Гарадзенскай абласной арганізацыі Партыі БНФ **Вадзім Саранчукоў**, сябра Сойму Партыі БНФ, кіраўнік Руху за Свабоду **Юры Губарэвіч**, сябра Рады Моладзі БНФ **Мікіта Краснакуцкі.**

Асаблівае абурэньне выклікае той факт, што большасьць затрыманьняў ажыцьцяўляюць асобы ў цывільнай вопратцы, без апазнавальных знакаў супрацоўнікаў міліцыі і без прад'яўленьня службовых пасьведчаньняў, зь нематываваным ужываньнем грубай фізічнай сілы, у тым ліку супраць жанчынаў.

**Сойм Партыі БНФ патрабуе:**

1. Спыніць дзяржаўныя рэпрэсіі супраць уласнага народу ў сувязі з рэалізацыяй грамадзянам свайго права на негвалтоўны пратэст;

2. Скасаваць угрунтаваныя на ілжэсьведчаньнях пастановы судоў аб пакараньні ўдзельнікаў мірных пратэстаў, неадкладна вызваліць усіх адміністрацыйна арыштаваных;

3. Расследаваць усе выпадкі незаконных і непрафэсыйных дзеяньняў супрацоўнікаў міліцыі ў цывільнай вопратцы падчас затрыманьняў грамадзянаў ды прыцягнуць вінаватых да адказнасьці;

4. **Адправіць у адстаўку міністра ўнутраных справаў Ігара Шуневіча;**

5. Забясьпечыць заканадаўчыя і практычныя гарантыі рэалізацыі канстытуцыйнага права грамадзянаў Беларусі на мірныя сходы і негвалтоўны пратэст.

# О СОЗДАНИИ КОМИТЕТОВ «ЗА РЕФОРМЫ»

Беларусь оказалась в глубочайшем кризисе во всех сферах жизни: политической, экономической, социальной, духовной.

Некомпетентное управление экономикой привело к развалу промышленного и сельскохозяйственного производства, безработице и обнищанию народа. Следствием этого стал крах социальной сферы: здравоохранения, образования, культуры, соцобслуживания.

Духовное возрождение беларуского народа на основе национального исторического и культурного возрождения, начавшегося в конце 80-х- начале 90-х годов XX века было прервано референдумом 1995 года и последующей деятельностью правящего режима.

Всеобъемлющий кризис в государстве является следствием 20-ти летней антинародной внутренней и внешней политики А.Лукашенко и его чиновников.

Страну спасут неотложные радикальные реформы. Нынешняя власть не способна их провести. Для этого у неё нет ни желания, ни воли. Реформировать страну могут только новые люди. Они придут на волне народного движения за обновление страны. Народное движение – это тысячи народных комитетов, которые возникли по воле граждан, объединённых единством интересов, занятий, проживания.

**Я предлагаю повсеместно создавать народные комитеты «За реформы»**

Добровольные и неформальные образования – комитеты – имеют разные цели, род и сферы деятельности, численность. Их объединяет одна стратегическая цель – реформа общества: экономическая, политическая, социальная, духовная.

- Задачи народных комитетов, созданных на базе профессиональной деятельности на предприятиях, учреждениях, организациях – реформа производства для выпуска конкурентноспособной продукции, увеличения числа рабочих мест, повышения заработной платы, защиты интересов работающих. Первостепенной задачей этих комитетов является отмена контрактной системы, создание независимых профсоюзов. Вводится практика запрета увольнения работников без согласия комитета.
- Комитеты работников медицины добиваются реформы системы здравоохранения, защиты прав работников и пациентов.
- Комитеты учреждений образования инициируют и проводят реформу системы образования и обучения и защищают права преподавателей и учащихся.
- Территориальные народные комитеты могут объединять граждан, проживающих в отдельном доме, улице, микрорайоне, избирательном участке или округе, населённом пункте.Их цель – забота о благоустройстве места проживания, контроль за работой служб коммунального хозяйства, защита интересов граждан, проживающих на территории.
- Комитеты, объединяющие граждан по принципам общности интересов, социальных групп добиваются улучшения законодательства в области культуры, социальной сферы, прав и свобод.

**Выборы.**

Кардинальные преобразования беларуского общества в 90-х годах XX века, которые привели к краху коммунистической системы и образованию независимого государства – Республики Беларусь – стали возможны благодаря деятельности депутатов-реформаторов в Верховном Совете БССР XII созыва и в местных Советах.

Реальные изменения в нынешнем обществе возможны после прихода в органы власти политиков-реформаторов, избранных народом на свободных демократических выборах.

Цель народных комитетов в 2017-2018 годах добиться изменений Избирательного Кодекса и избрание на выборах в местные Советы депутатов, пользующихся народным доверием и отстаивающих интересы своих избирателей.

Народные комитеты выдвигают своих представителей в местные Советы и добиваются их избрания депутатами. Это является гарантией реформ в беларуском обществе, укрепления государственного суверенитета и европейского выбора Беларуси.

За новую Европейскую Беларусь!

**Христофор Желяпов, Zhelapov@list.ru**

# ЗВАРОТ ДА ДНЯ ВОЛІ

Шаноўныя суродзічы, дарагія сябры беларусы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам! У гэты дзень, 25 сакавіка 1918 г., пасьля доўгай няволі, калі вонкавы сьвет забыўся пра нашае існаваньне, народ наш заявіў, што хоча жыць у сваёй незалежнай дзяржаве.

Давялося чакаць яшчэ больш як сем дзесяцігодзьдзяў, пакуль Беларусь сталася ўсімі прызнанай дзяржавай, але калі б не было ў сакавіку 1918 году людзей, якія моцна верылі ў сваё права быць вольнымі на сваёй зямлі, – не здабылі б мы ў жніўні 1991-га сваёй дзяржавы.

Дарагія сябры, праз год, 25 сакавіка 2018 г., мы адзначым 100–гадовы юбілей абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У нармальнай дэмакратычнай краіне, дзяржава рыхтавалася б да вялікага сьвята – але цяпер, на жаль, настрой не сьвяточны. У гэтым 2017 годзе наш край ізноў апынуўся пад пагрозай быць зьняволеным тым самым захопнікам. Разьвіцьцё апошнім часам падзеяў вельмі трывожнае. Перад мілітарызацыяй нашай зямлі расейскімі базамі і манэўрамі з удзелам тысячаў расейскіх вайскоўцаў, Беларусь успрымаецца захадам верным саюзьнікам Масквы, і падзел паміж двума сьветамі пакідае нас штораз часьцей на баку варожай нам імпэрыі. У выпадку вайны наш народ ізноў зробіцца першай яе ахвярай.

Зьвяртаюся сёньня да беларускага народу, у Беларусі і ўва ўсім сьвеце. Гэтак, як нашая геранічная моладзь, якая нядаўна бараніла Курапаты, скажыце ўсяму сьвету і прамаскоўскім хаўрусьнікам у Менску, што беларускі народ не зьбіраецца ізноў паміраць за чужыя імпэрыі, што край наш выбраў нэўтралітэт, калі ён меў магчымасьць выказаць сваю волю, і што ён быў уцягнуты ў варожую нам Эўразійскую зону, нягледзячы на гэтае жаданьне, выказанае ў Канстытуцыі...

Дарагія мае суродзічы на Бацькаўшчыне, трэба, каб вы таксама заявілі сьвету, што вы ізноў быць каленіяй Масквы не зьбіраецеся. З сумам канстатую, што трэба быць героем, каб у Беларусі змагацца за волю нашай зямлі. З глыбіні сэрца віншую тых, хто гэта штодзённа робіць. Сьвет пра вашае змаганьне ведае. Воля і Незалежнасьць Беларусі, у першую чаргу – у вашых руках! Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,** *старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, сакавік, 2017 г.*

# З’ЕЗД БНФ АДБУДЗЕЦЦА 30 ВЕРАСЬНЯ

**18 сакавіка ў цэнтральнай сядзібе БНФ адбылося чарговае пасяджэньне Сойму Партыі БНФ і Грамадзкага аб’яднаньня БНФ “Адраджэньне”. На пасяджэньні кіруючага органа БНФ былі разгледжаныя пытаньні бягучай палітычнай сытуацыі, абмеркаваны стан падрыхтоўкі партыі да адзначэньня 25 сакавіка 99-х угодкаў абвяшчэньня трэцяй устаўной граматы БНР. Сойм пастанавіў правесьці 30 верасьня XVIII чарговы справазначна-выбарчы З’езд Партыі БНФ і ГА БНФ “Адраджэньне”.**

З дакладам аб палітычнай сытуацыі перад Соймам выступіў старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч.**

Ён адзначыў, што ад часу мінулага лютаўскага пасяджэньня Сойму ўнурыпалітычная сытуацыя ў краіне імкліва разьвівалася, і асноўнай падзеяй часу сталіся масавыя пратэсты грамадзянаў супраць пагаршэньня эканамічнай сытуацыі ў краіне. Нагодай для пратэстаў стаўся ганебны дэкрэт №3, які абвесьціў “дармаедамі” вялікую частку насельніцтва, што выклікала справядлівае абурэньне беларусаў нахабнымі дзеяньнямі ўладаў. Пры гэтым пратэсты набываюць палітычную афарбоўку, разам з сацыяльна-эканамічнымі лёзунгамі гучаць і лёзунгі палітычныя. Актывісты і лідэры мясцовых арганізацыяў БНФ бяруць актыўны ўдзел у пратэстных акцыях, асабліва ў рэгіёнах.

Аляксей Янукевіч зазначыў незаконны і неабгрунтаваны характар дзеяньняў уладаў супраць пратэстоўцаў. На справядлівыя патрабаваньні беларусаў, выяўленыя шляхам негвалтоўных і мірных акцыяў, рэжым адказаў арыштамі, зьбіцьцём і штрафамі – гэткая рэакцыя абсалютна непрапарцыйная, не адпавядае заканадаўству і міжнародным нормам пра правы людзей на ўдзел у мірных сходах.

Аляксей Янукевіч падкрэсьліў безвыходнасьць становішча ўладаў, якія не даюць рады эканамічным праблемам. З года ў год улады скарачаюць сацыяльна-эканамічную падтрымку людзей, скарачаюць ільготы ды сацыяльныя гарантыі, павялічваюць, насуперак сваім жа перадвыбарчым абяцанкам, падаткі і зборы. Звыклая крыніца падтрымкі рэжыму – Расея – больш не дае ім дадатковых грошаў. Таму рэжым разглядае як асноўны сродак забесьпячэньня свайго існаваньня – ізноўку абіраць людзей. Гэта выклікае справядлівае абурэньне беларускага народу.

Лідэр БНФ заклікаў верыць у беларускі народ, які цяпер здольны падтрымаць палітычныя лёзунгі апазыцыі і падтрымаць патрабаваньні дэмакратычных сілаў. Пры гэтым Аляксей Янукевіч крытычна выказаўся наконт меркаваньняў пра наяўнасьць ў рэжыме розных груповак і групаў інтарэсаў, якія, маўляў, спрабуюць па-рознаму рэагаваць на выклікі хвалі пратэстаў. Рэжым па-ранейшаму захоўвае маналітны характар, чыноўнікі і службоўцы захоўваюць лаяльнасьць Лукашэнку.

Лукашэнка працягвае палохаць Захад і пагражае сыйсьці глыбей пад уплыў Расеі. Гэтаксама рэжым палохае расейскай пагрозай і беларускае грамадзтва. Але гэта тактыка выманьваньня ў заходнікаў новых інвестыцыяў і крэдытаў – якіх пакуль дамагчыся не атрымалася.

Але гэта не азначае, што расейская пагроза фантомная: яна існуе, і адэпты “рускага сьвету” відавочна актывізавалі сваю працу супраць беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Але не трэба забывацца: абаронцам беларускага сувэрэнытэту зьяўляецца не рэжым Лукашэнкі, абаронцам беларускага сувэрэнытэту зьяўляецца толькі і толькі беларускі народ.

Аляксей Янукевіч адзначыў, што не лічыць верагодным разгортваньне пратэстаў супраць дэкрэту №3 ва ўстойліваю і доўгатэрміновую кампанію: цягам бліжэйшага месяцу гэтая тэма альбо будзе вычарпаная, альбо пяройдзе ў сферу палітычна аформленых пазыцыяў нацыянальна-дэмакратычных арганізацыяў.

Сойм Партыі БНФ прыняў заяву **“Патрабуем спыніць рэпрэсіі і вызваліць зняволеных пратэстоўцаў!”**.

На пясяджэньні Сойму былі дакладзеныя вынікі абмеркаваньня ў рэгіянальных арганізацыйных структурах партыі магчымай даты правядзеньня чарговага справаздачна-выбарчага З’езду. Па выніках абмеркаваньня Сойм Партыі БНФ прыняў рашэньне склікаць чарговыя справаздачна-выбарчыя XVIII З’езд Партыі БНФ і XV З’езд Грамадзкага аб’яднаньня БНФ “Адраджэньне” 30 верасьня 2017 году. Упраupе Партыі БНФ разам з праўна-аналітычнай камісіяй даручана распрацаваць і вынесьці на разгляд наступнага пасяджэньня Сойму праект рашэньня пра парадак арганізацыі і падрыхтоўкі З’езду з графікам правядзеньня сходаў па вылучэньні дэлагатаў.

На Сойме прагучала прапанова ўлічыць у будучым палажэньні пра правядзеньне З’езду патрэбу забясьпечыць роўныя ўмовы для агітацыі розным прэтэндэнтам на пасаду старшыні партыі. З’езд будзе справаздачна-выбарчы, і ў Партыі і ГА БНФ “Адраджэнне” абавязкова з’явіцца новы старшыня. Цяперашні старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч не мае права вылучацца на гэту пасаду, бо ён ужо адбыў два тэрміны на пасадзе старшыні арганізацыі. На Сойме кіраўніцтвам партыі былі агучаны прозвішчы рэкамендаваных палітычнай камісіяй кандыдатаў на пасаду старшыні Партыі БНФ. У прыватнасці, сярод кандыдатаў ёсць дзве жанчыны – наменіца старшыні Партыі БНФ **Вольга Лагвіновіч** і сябра Сойма **Вольга Дамаскіна.** Таксама прэтэндаваць на старшынства ў Партыі БНФ будуць намеснікі старшыні **Рыгор Кастусёў, Ігар Лялькоў і Аляксандр Стральцоў.** У якасці верагодных кандыдатаў да таго ж названыя і шэраг лідэраў абласных арганізацый БНФ: Брэсцкай – **Дзмітрый Шыманскі**, Гродзенскай – **Вадзім Саранчукоў**, прагучала таксама і прозвішча лідэра БНФ на Магілёўшчыне, хоць **Віталь Макаранка** пакуль не пацьвердзіў намеру аб вылучэньні на пасаду кіраўніка партыі і руху. Рада раённай арганізацыі аднаго з раёнаў г. Мінска і арганізацыі Партыі БНФ Мінскага раёна вылучылі ў якасці кандыдата на пасаду старшыні БНФ журналіста **Іллю Дабратвора.** Як мяркуюць многія сябры Партыі БНФ, сьпіс верагодных прэтэндэнтаў на старшынства будзе пашырацца.

Фарумецца дружына для захоўваньня парадку падчас акцыі Дзень Волі– у тым ліку запіс ў яе ладзіць “Малады фронт”: праз спартова-патрыятычны клюб “Ваяр” запрашаюць ахвочых далучацца да дружыны аховы сьвяточнага шэсьця 25 сакавіка.

На прапанову сябры Сойму **Сяргея Трафімчыка** вырашана рэкамендаваць аргкамітэту 25 сакавіка папярэдне агучыць заявы і праекты рэзалюцыі акцыі дзеля наданьня ёй выразнага нацыянальна-патрыятычнага, незалежніцкага характару.

Заяўкі на правядзеньне акцыі пададзеныя актывістамі Партыі БНФ у Берасьці і Віцебску, таксама пададзеная заяўка ў Гародні.